ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕС Я

ДА БАРАЦЬБЫ ЗА СПРАВУ РАБОЧЫХ — БУДЗЬ ГАТОЎ



# БЮЛЕТЭНЬ № 1

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ШТАБУ 2-га ЎСЕБЕЛАРУСКАГА ЗЬЛЁТУ ПІЯНЭРАЎ





Менск—Чэрвень 1931 г.




# ПАСТАНОВА

## ЦК КП(б)Б аб скліканьні 2-га Усебеларускага зьлёту піянэраў.

1. Надаючы вялікае палітычнае значэньне піянэрскаму зьлёту, які адыгрывае вялікую ролю ў справе падагульненьня дзейнасьці дзіцячай камуністычнай арганізацыі па практычнаму ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, сакратарыят ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

а) згадзіцца з пастановай ЦК ЛКСМБ аб скліканьні Ўсебеларускага зьлёту піянэраў у 2-й палове ліпеня з папярэднім правядзеньнем райзьлётаў па раёнам.

Тэрмін правядзеньня райзьлёту па раёнам устанавіць у 2-й палове чэрвеня бягучага году.

б) Парадак дню зьлёту ўстанавіць наступны:

1. Даклад ЦБ ДКО аб становішчы дзіцячай камуністычнай арганізацыі і чарговых задачах.

2. Даклады НКЗ і ВСНГБ, аб выкананьні сац. умоў з піянэрарганізацыяй.

в) Зьлёт склікаць колькасьцю на 800 асоб.

г) Для кіраўніцтва падрыхтоўкай да Ўсебеларускага зьлёту скласьці ўрадавы камітэт з т.т. Чарвякова, Гнілякевіча, Чарнушэвіча (ЦК КП(б)Б), Гайдукевіча (ЦК ЛКСМБ), Бялуга (НК Асьветы) Клімковіч (ЦСПСБ) прадстаўнік Гарсавету.

д) Прапанаваць усім Г. К. РК КП(б)Б у адпаведнасьці з рашэньнем ЦК КП(б)Б забясьпечыць неабходнымі мерапрыемствамі правядзеньне райзьлётаў піянэраў.

*Сакратар ЦК КП(б)Б Шаранговіч.*



**Піянэрская арганізацыя—Ленінская школа камуністычнага выхаваньня дзяцей працоўных.**

**У рады піянэраў уцягнем 100% дзяцей рабочых, калгасьнікаў, батракоў і беднякоў.**

# УДАРНАЙ БРЫГАДАЙ

## павінна прысьці піянэрская арганізацыя да 2-га Усебеларускага зьлёту.

З часу І-га Ўсебеларускага зьлёту піянэраў прайшло 2 гады. За гэты час наша краіна ўступіла ў пэрыяд сацыялізму. Пад Ленінскім кіраўніцтвам УсеКП(б) Савецкі Саюз ператвараецца з краіны аграрнай ў краіну сацыялістычнай індустрыі, з краіны адсталай ў краіну перадавой тэхнікі. Калектывізацыя ўсё шырэй ахапляе вёску ўтвараючы ўмовы нечуванага росквіту с/г. Рабочая кляса ідзе на штурм апошняй апоры капіталізму ў краіне саветаў—ліквідуе кулацтва, як клясу на базе суцэльнай калектывізацыі.

У гэты пэрыяд разгорнутага сацыялістычнага наступленьня па новаму ставіцца пытаньне аб НЭП'э, аб клясах па новаму яно ставіцца і ў рабоце сярод дзяцей.

З усёй вастратой стаіць задача ўзмацненьне камуністычнай работы сярод дзяцей, работа дзіцячай камуністычнай арганізацыі становіцца справаю ня толькі камсамолу. У справу выхаваньня дзяцей ўцягваюцца шырокія пласты рабочых і калгасных мас.

У пэрыяд разгорнутага пераможнага наступу сацыялізму па ўсім фронце, клясавы вораг шалёна супраціўляецца імкнецца шкодзіць сацыялістычнаму будаўніцтву—абвастраецца клясавая барацьба. У пэрыяд абвостранай клясавай барацьбы яшчэ вастрэй стаіць задача барацьбы за кадры, асабліва рашуча ўстае задача камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня,—павялічваецца палітычная роля дзіцячай камуністычнай арганізацыі, як важака і арганізатара пралетарскіх дзяцей

За час між 1-м і 2-м Усебеларускім зьлётамі дзеці працоўных нашай краіны на чале з дзіцячай камуністычнай арганізацыяй—юных піянэраў, пад кіраўніцтвам Ленінскага камсамолу сталі актыўнымі ўдзельнікамі сацыялістычнага будаўніцтва

Ад удзелу ў паасобных кампаніях піянэрская арганізацыя пераключаецца на сыстэматычную штодзённую барацьбу за сацыялістычную індустрыю, калектывізацыі с/г у барацьбу за палітэхнічную школу, пралетарскую культуру, суцэльную граматнасьць нашай краіны.

Піянэрская арганізацыя па новаму ўдзельнічае ў гэтай барацьбе на аснове дзяржаўных заданьняў, дагавароў складзеных з гаспадарчымі арганізацыямі. ДКО Беларусі склала дагавор з ВСНГБ, НКЗ і Калгасцэнтрам, узяла пэўныя абавязкі па выкананьню задач сацыялістычнага будаўніцтва і гэтым вызначыла сваё месца ў 3-м рашаючым годзе 5-ці годкі.

Дзеці працоўных становяцца ўдзельнікамі сацыялістычнага спаборніцтва. Піянэрская арганізацыя Беларусі склала дагавор на сацспаборніцтва з піянэрамі Азэрбайджану і Заходняй вобласьці.

Гэты сацыялістычны дагавор зьяўляецца баявой праграмай, вызначае месца дзіцячай камуністычнай арганізацыі і ўсіх дзяцей працоўных па ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве да канца 5-ці годкі.

Узрасла палітычная актыўнасьць мас пралятарскіх дзяцей, перад дзіцячай камуністычнай арганізацыяй устала задача ўцягнуць у свае рады 100% дзяцей рабочых, калгасьнікаў, батракоў і беднякоў.

Гэта вымагае ад партыі, камсамолу, усёй пралетарскай грамадзкасьці асаблівай увагі да дзіцячага камуністычнага руху—вось чаму ЦК КП(б)Б вырашыў склікаць 2-гі Ўсебеларускі Зьлёт.

2-гі Ўсебеларускі зьлёт адбудзецца на рубяжы двух сьветаў: сьвету дзе дзень за днём пад кіраўніцтвам загартаванай ў клясавых бойках камуністычнай партыі будуецца Савецкі Саюз і сьвету капіталізма дзе сусьветны эканамічны крызіс з усёй сілай абурваецца на становішча рабочых, дзе з кожным днём расьце беспрацоўе і ў сувязі з ростам рэзэрвнай арміі працы павялічваецца эксплёатацыя ўсіх пакаленьняў, дзе ва ўмовах падпольля і тэрору камуністычныя партыі вядуць рэвалюцыйную барацьбу дзе рэвалюцыйная дзейнасьць піянэрскіх арганізацый праходзіць ва ўмовах жорсткіх прасьледваньняў паліцыі арыштаў, турэмных заключэньняў і нават растрэлаў.

Радацімскі растрэл, спробы цэргібелей сарваць 2-гі міжнародны зьлёт пралетарскіх дзяцей ў г. Бэрліне ў мінулым годзе паказваюць нам тыя ўмовы ў якіх праводзіць сваю работу дзіцячая камуністычная арганізацыя за мяжой.

2-гі Ўсебеларускі зьлёт пакажа, якой ўвагаю і клопатамі акружаны дзеці працоўных Савецкага Саюзу пакажа моц 3-й падрастаючай зьмены будаўнікоў сацыялістычнага будаўніцтва.

Пасьля 1-га Ўсебеларускага і Ўсесаюзнага зьлётаў піянэрская арганізацыя ў сваёй дзейнасьці перайшла на больш высокую ступень. За гэты час піянэрская арганізацыя зрабіла рэзкі паварот сваёй дзейнасьці накіраваўшы яе на выкананьне гаспадарча-палітычных задач, зьвязаўшы сваю грамадзка-палітычну юработу з агульнай работай партыі, камсамолу, усяе рабочае клясы.

Аднак мы маем рад арганізацый атрадаў, якія стаяць у баку ад штодзённай работы свайго прадпрыемства, калгасу, саўгасу зводзячы сваю дзейнасьць да ўдзелу ў асобных кампаніях, няўмеючы зьвязаць сваю штодзённую работу з агульнымі задачамі пабудовы сацыялізму у нашай краіне.

Да 2-га Ўсебеларускага зьлёту перад намі стаіць задача завяршыць паварот, ад кампанейскіх мерапрыемстваў атраду, уключыць усіх піянэраў і дзяцей у штодзённую работу прадпрыемстваў, саўгасаў, калгасаў, разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва, павысіць якасьць піянэрскай работы.

Сацыялістычнае спаборніцтва, ф-к, заводаў ахапіла атрады і школы. За апошні год у піянэрарганізацыі разгортваецца сацыялістычнае спаборніцтва, наша задача да зьлёту яшчэ шырэй разгарнуць сац. спаборніцтва, зрабіць яго асноўным мэтадам удзелу дзяцей у сацыя-

лістычным будаўніцтве. Зьлёт павінен узьняць усіх дзяцей працоўных на выкананьне сацыялістычнага дагавору 3-х арганізацый.

Да зьлёту абавязкі ўзятыя па дагавору патрэбна давесьці да кожнага зьвяна, піянэра—зрабіць кожнага піянэра ўдзельнікам сацыялістычнага спаборніцтва.

Шырокі рост палітычнай актыўнасьці дзяцей працоўных ставяць перад намі задачу вазглаўленьня гэтай актыунасьці, арганізацыйнага замацаваньня—задачу росту піянэрарганізацыі.

З 75.000 на першым Усебеларускім зьлёце піянэрарганізацыі Беларусі да 2-га Ўсебеларускага зьлёту у сваіх радох налічвае да 200 тысяч.

Задачы пастаўленыя Ўсебеларускім і Ўсесаюзным зьлётамі аб падвоеньні шэрагаў піянэрскай арганізацыі выканана. Зараз перад намі ўстае задача ўцягнуць у рады піянэраў 100% дзяцей рабочых калгасьнікаў, батракоў, беднякоў—зрабіць піянэрскую арганізацыю шматмільённай арганізацыяй дзяцей працоўных.

Задача павышэньня якасьці піянэрскай работы патрабуе палепшаньне кіраўніцтва работы піянэрарганізацыяй да зьлёту наша задача, з боку камсомолу на аснове рашэньняў Х-га і IX-га зьезду ЛКСМ,, перабудаваць кіраўніцтва, дабіўшыся карэннага палепшачьня кіраўніцтва камітэтаў яч. КСМ, работаю атрадаў, прыцягваючы піянэраў у штодзённую работу яч. на заводзе, ф-цы, калгасе і саўгасе, ставячы дзяцей на пасільныя вучасткі работы па сацыялістычнаму будаўніцтву. Задача палепшаньня якасьці работы патрабуе палепшаньня кадраў кіраўнікоў піянэр-руху, патрабуе рашучай барацьбы з недаацэнкай піянэрскай работы.

Задача камсамольскага кіраўніцтва замацаваць колькасна вырасшую арганізацыю, узьняць якасьць выхаваўчай работы і на аснове палепшаньня ўсёй работы піянэрарганізацыі па ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве разгортваць далейшы рост арганізацыі.

Аднэй з задач зьлёту зьяўляецца мабілізацыя ўвагі ўсёй пралетарскай грамадзкасьці да работы дзіцячай камуністычнай арганізацыі. Выхаваньне падрастаючага пакаленьня павінна стаць справай ня толькі партыі і камсамолу, але і справай усяе рабочае клясы, усёй пралетарскай грамадзкасьці.

На аснове гэтага, усе дзяржаўныя, прафсаюзныя, грамадзкія арганізацыі павінны праверыць сваю дзейнасьць у адзіным пляне камуністычнага выхаваньня, павінны праверыць, што зроблена для выкананьня наказаў 1-га Ўсебеларускага і Ўсесаюзнага зьлётаў.

Усе арганізацыі павінны ў свае пляны ўключыць дзейнасьць дзіцячай камуністычнай арганізацыі рашуча змагаючыся з апартуністычнай недаацэнкай работы сярод дзяцей.

Зьлёт—зьезд прадстаўнікоў ад рабочай, калгаснай, батрацкай і бядняцкай дзетвары ўсіх раёнаў Савецкай Беларусі праверыць дзейнасьць дзіцячай камуністычнай арганізацыі і ўсіх дзяцей працоўных па ўдзелу ў сацбудаўніцтве, яшчэ вышэй ўзьніме палітычную актыўнасьць мас дзяцей працоўных, прыцягне піянэраў да непасрэднага кіраўніцтва

работаю ДКО. Па гэтаму падрыхтоўчая работа да зьлётаў Усебеларускага і раённых павінна мабілізаваць піянэрарганізацыю і ўсіх дзяцей працоўных на непасрэдны ўдзел у рабоце прадпрыемстваў калгасаў, саўгасаў, на барацьбу за прамфінплян, за калектывізацыю с/г, за тэхніку, якасьць, за вырашэньне задач спэцыялізацыі свайго раёну.

Падрыхтоўчая работа да зьлётаў павінна праходзіць пад знакам умацаваньня ўдзелу дзяцей у сацыялістычным будаўніцтве, умацаваньня ўдзелу дзяцей у абароназдольнасьці краіны пад знакам умацаваньня інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня і ўзмацненьня вайскова-фізкультурнай работы піянэрарганізацыі.

Вакол высунутых задач да зьлёту неабходна мабілізаваць усю піянэрскую арганізацыю шырока ўцягваючы дзяцей працоўных у правадзімую работу, **змагаючыся за павышэньне якасьці выхаваўчай работы піянэр-атрадаў, за завяршэньне павароту дзейнасьці дзіцячай камуністычнай арганізацыі ў вырашэньні задач сацыялістычнага будаўніцтва, за ператварэньня піянэрскай арганізацыі ў шматмільённую.**

---

# ЛЕЗУНГІ

## да 2-га Усебеларускага зьлёту піянэраў.

1. Зьлёт—баявы агляд удзелу пралятарскіх дзяцей у сацыялістычным будаўніцтве.

2. Мабілізуем піянэрскую ініцыятыву, энэргію за выкананьне 3-га рашаючага году 5-ці годкі. Станем сапраўднымі барацьбітамі за сацыялізм.

3. Мабілізуем піянэрскія масы ў бойку за „518“ і „1040“, за сацыялістычную прамысловасьць.

4. Наша краіна ўступіла ў пэрыяд сацыялізму. Мільёнамі дзіцячых рук дапаможам партыі будаваць сацыялізм.

5. 5-ці годка—руйнуючы удар па клясаваму ворагу, будзем біцца за плян, за тэмпы, за якасьць, за 5-ці годку ў 4 гады.

6. Юныя Ленінцы. Адзінай ударнай брыгадай на дапамогу партыі па суцэльнай калектывізацыі бядняцка - серадняцкіх гаспадарак. На штурм да калгасных перамог.

7. Няхай жыве сталёвая загартаваная ў рэвалюцыйных бойках партыя Леніна.

8. Няхай жыве кіраўнік і арганізатар дзіцячага камуністычнага руху—Ленінскі Чырвона-Штандарны камсомол.

9. Мільёны рабочых дзяцей за мяжой прызначаны на голад, рабства і выміраньне. Няхай ярчэй палае наша ненавісьць да капіталістычных драпежнікаў.

10. Бязвыхадны крызіс атрасае капіталізм. Юнныя Ленінцы ўсяго сьвету. Да рашаючых боях пад сьцягамі Камінтэрн і КІМ–Будзьцегатовы.

11. Пад ударамі фашысцкай дубінкі і настаўніцкай зубатычыны працуюць і змагаюцца нашы зарубежныя браты. Мацней сувязь з пралетарскай дзетварой усяго сьвету.

12. Меншавікі ўсіх масьцей рыхтуюць па заказу сваіх гаспадароў вайну супроць СССР. Юныя Ленінцы, вучыцеся ў Леніна біць і ненавідзець меншавікоў.

13. Капіталістычны сьвет рыхтуе вайну супроць бацькаўшчыны сусьветнага пралетарыяту—СССР. Узмацнім абароназдольнасьць краіны.

14. Чырвонай арміі рабочых і сялян – піянэрскі салют.

15. У краіне саветаў няма месца нацыянальнай розьні. Дзеці працоўных усіх нацыянальнасьцей адзіным зьлітаванным атрадам на перад за с а ц ы я л і з м.

16. Піянэры—ударнікі будаўніцтва і вучобы. Вышэй сьцяг сац. спаборніцтва і ўдарніцтва.

17. Мы ўдарнікі Усеагульнага навучаньня дапаможам партыі ператварыць Савецкі Саюз у краіну суцэльнай пісьменнасьці.

18. Піянэрскія батальёны! Штурмуйце вышыні навукі і тэхнікі.

19. У бойках за сацыялізм, за тэмпы, за якасьць узмацняецца спайка Ленінскіх пакаленьняў—партыі, камсамолу, юных піянэраў.

20. 100% дзяцей рабочых, калгасьнікаў, батракоў, беднякоў у рады юных піянэраў.

21.
Нашы дні на будове гарацькаль
Нашы дні барацьбою пеняцца
Паведзем пралетарскіх дзяцей
Пад сьцягам юных Ленінцаў.

22. Вышэй клясавую пільнасьць. За бальшавіцкую ня прымірымасьць у барацьбе з кулаком. Ліквідуем кулацтва, як клясу на базе суцэльнай калектывізацыі.

23. Актыўным удзелам у будаўніцтве пралетарскай культуры пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі нанясем руйнуючы ўдар вялікадзяржаўнаму шавінізму і контр-рэвалюцыйнаму нацыянал дэмакратызму.

24. ЦК Усе КП(б) і КП(б)Б—арганізатарам і кіраўнікам сацыялістычнага наступу па ўсяму фронту—ад мільёнаў пралетарскіх дзяцей баявое піянэрскае прывітаньне.

25. Друк—самая вострая, самая моцная зброя партыі. (Сталін).

26. Лепшаму вучню Леніна—правадыру камуністычнай партыі бальшавікоў тав. Сталіну піянэрскае прывітаньне.

27. Дзецям працоўных Заходняй Беларусі і Польшчы прыгнечаным польскім фашызмам баявы піянэрскі прывет.

28. Мацаваць посьпехі калгасных перамог. Піянэры актыўныя ўдзельнікі пераводу калгасаў на зьдзельшчыну. Даб'емся правільнай арганізацыі дзіцячай працы ў калгасах.

*Цэнтральны Камітэт Ленінскага Камуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.*

# Усім сакратарам Райкомаў і старшыням бюро піянэраў.

Пастановаю ЦК КПБ і ЦК ЛКСМБ у 2-й паловы ліпеня бягучага году будзе скліканы 2-гі Усебеларускі зьлёт піянэраў з папярэднім правядзеньнем раённых зьлётаў. Грунтоўнымі задачамі па падрыхтоўцы і правядзеньню зьлётаў зьяўляюцца:

а) Павялічэньне ролі пралетарскай дзетвары, дзяцей калгасьнікаў, батракоў і беднякоў па ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, у выкананьні 5-ці годкі ў 4-ры гады.

б) Праверка выкананьня пастаноў Х-га Зьезду ЛКСМБ аб палепшаньні работы сярод дзяцей.

в) Набліжэньне пралетарскай грамадзкасьці да справы камуністычнага выхаваньня дзяцей, праверка дадзеных абавязацельств у час 1-га Усебеларускага зьлету.

г) На аснове дасягнутых посьпехаў па ўдзелу піянэр-арганізацыі ў сацыялістычным будаўніцтве ў час падрыхтоўчай работы да зьлёту дабіцца поўнага павароту піянэрарганізацыі на выкананьне задач партыі ў сацыялістычным будаўніцтве.

На глебе гэтых задач неабходна разгарнуць масавую работу піянэрарганізацыі накіраваў яе на вырашэньне задач зьвязаных з барацьбой за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, ауладаньне тэхнікай, барацьбы за калгаснае будаўніцтва і дачы рашучага адпору кулацкім элементам.

Неабходна дабіцца поўнай мабілізацыі ініцыятывы піянэраў і мас дзяцей працоўных на выкананьне гэтых задач.

ЦК папярэджвае, што ўся дзейнасьць піянэрарганізацыі павінна быць на аснове дабраахвотнасьці і ініцыятывы саміх дзяцей з тым, каб піянэрарганізацыю ператварыць сапраўды ў арганізацыю саміх дзяцей. Асноўныя задачы ў час падрыхтоўчай работы па правядзеньню райзьлётаў:

Праверыць выкананьне сац. умовы піянэрскай арганізацыі з ВСНГ і НКЗемам.

У час падрыхтоўкі да Райзьлётаў неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на выкананьне ўзятых абавязацельств па ўдзелу ў нацкультбудаўніцтве. Неабходна скарыстаць падрыхтоўчую работу да зьлёту ў мэтах мабілізацыі піянэраў і ўсіх дзяцей вакол задач культурнага будаўніцтва, павялічыўшы ролю піянэраў ў барацьбе за палітэхнічную школу, усеnавуч, ліквідацыю няпісьменнасьці. Неабходна праверыць работу па разгортваньню вайскова-фізкультурнага выхаваньня ў піянэрарганізацыі выканаўшы пастановы Х-га зьезду па гэтаму пытаньню.

Арганізаваць масавую вярбоўку дзяцей рабочых калгасьнікаў, беднякоў, батракоў у шэрагі піянэрарганізацыі,—дабіўшыся поўнага выкананьня пастаноў Х-га зьезду ЛКСМБ аб росьце піянэрарганізацыі.

Выкананьне гэтых задач патрабуе своечасовай працы ў піянэратрадзе, зьвяне, таму, безадкладна прыступіць да разгортваньня работы піянэратраду забясьпечыўшы адпаведным кіраўніцтвам і дапамогай работы піянэратрадаў. ЦК звярачвае асаблівую ўвагу на неабходнасьць шырокага прыцягненьня пралетарскай грамадзкасьці да практычнай дапамогі піянэрарганізацыі ў падрыхтоўцы да зьлёту.

Надаючы вялікае палітычнае значэньне правядзеньню зьлёту ЦК абавязвае РК ЛКСМБ дабіцца карэннога палепшаньня камсамольскага кіраўніцтва, работаю піянэрарганізацыі.

Усе вышэй паказаныя задачы ні ў якім разе не вычэрпваюць усіх мерапрыемстваў, якія неабходна правесьці ў сувязі з падрыхтоўчай работай да зьлёту.

З атрыманьнем даннага паказаньня неабходна абгаварыць пытаньне на Бюро ДКО і Бюро РК і ГК ЛКСМБ з перанясеньнем пытаньня ў ГК і РК КП(б)Б паставіўшы пытаньне перад партыйнымі камітэтамі аб праверцы работы сярод дзяцей з боку савецкіх, каапэрацыйных, прафсаюзных і грамадзкіх арганізацый.

Стварыць штаб пры ГК РК ЛКСМБ для кіраўніцтва ўсей падрыхтоўчай работай да зьлёту на які ўскласьці ўсе апэрацыйнае кіраўніцтва.

Аб прынятых мерах зьвязанных з падрыхтоўкай да зьлёту паведаміць ЦК.

Праз кожныя 5-ць дзён інфармаваць ЦБ ДКО аб разгортваньні работы ў піянэрарганізацыі да зьлёту. Па ўсім практычным пытаньням зьвязанным з правядзеньнем зьлёту зварачвацца ў Цэнтральны Штаб пры ЦК ЛКСМБ.

***Сакратар ЦК ЛКСМБ ГУТКІН.***

***Старшыня ЦБ ДКО пры ЦК ЛКСМБ ГАЙДУКЕВІЧ.***

---

# Работу атраду, зьвеньняў—на вышэйшую ступень.

Падрыхтоўчая работа да зьлёту павінна ўзьняць на вышэйшую ступень работу кожнага атраду, зьвяна, піянэрах.

Кожны атрад павінен паставіць сваёй задачай да зьлёту палепшыць якасьць сваёй работы. Задача кожнага піянэрскага атраду ў свае рады ўцягнуць новыя дзесяткі дзяцей рабочых, калгасьнікаў, батракоў і беднякоў.

Кожны атрад да зьлёту павінен прыйсьці з новымі баявымі справамі на фронце барацьбы за прамфінплян, калгасы, палітэхнізацыю школы, усенавуч.

# З ЧАГО ПАЧЫНАЦЬ У АТРАДЗЕ.

У кожным атрадзе, зьвяне, на сходах дзяцей неабходна растлумачыць піянэрам і дзецям задачы зьлёту. Неабходна каб усе піянэры і дзеці ведалі, што будзе на Ўсебеларускім і раённых зьлётах, якія задачы зьлёту.

Выходзячы з гэтых задач кожны атрад і зьвяно вызначаюць плян свайго ўдзелу ў падрыхтоўцы да зьлёту. Піянэры павінны дабіцца ад кожнай яч. КСМ заслухаць інфармацыю баз і атрадаў аб іх падрыхтоўцы да зьлёту. Ячэйка заслухаўшы такія інфармацыі наладзіць канкрэтную дапамогу атраду. Неабходна каб зьлёт ячшэ бліжэй зьвязаў работу піянэратраду з работай партыі і камсамолу.

Прыкладна работа атраду ў пэрыяд да зьлёту павінна ахапіць наступ.:

**Перш за ўсё** кожнае зьвяно. атрад правярае свой удзел у выкананьні дагавароў з ВСНГБ, НКЗ і Калгасцэнтрам, як разгорнута сац. спаборніцтва ў атрадзе зьвяне.

На падставе дагавароў 3-х і дагавору з ВСНГБ, НКЗ і Калгасцэнтрам атрад выпрацоўвае свой сустрэчны дагавор, заключае дагавор з заводам фабрыкай, калгасам і саўгасам.

Зьвеньні ўступаюць у сацыялістычнае спаборніцтва, атрад выклікае на спаборніцтва другія атрады.

Аснова падрыхтоўкі—**праверыць што зроблена, давесьці дагавор 3-х да кожнага піянэра, разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва, мабілізаваць піянэраў і ўсіх дзяцей на актыўнае выкананьне абавязкаў узятых па дагавору 3-х да канца 5-ці годкі.**

**Па другое**—кожны атрад праводзіць шырокую растлумачальную работу сярод дзяцей і дарослых. Дзейнасьць піянэрарганізацыі павінны ведаць дзеці працоўных. У падрыхтоўцы да зьлёту **кожны атрад у свае рады павінен уцягнуць новыя дзесяткі дзяцей рабочых, калгаснікаў, батракоў і беднякоў.**

Атрад, уцягвае ў сваю работу—на зборы, вечары, спаборніцтвы, гульні і г. д. шырокія масы дзяцей.

Па трэцяе —атрады правяраюць як грамадзкасьць выканала наказы 1-га Ўсебеларускага і Усесаюзнага зьлётаў, правяраюць як удзельнічаюць і дапамагаюць у рабоце піянэраў рабочыя і калгасьнікі.

**Кожнае зьвяно атрад высоўвае свае запатрабаваньні да бацькоў, рабочых заводу, калгасьнікаў, прафсаюзаў, грамадзкіх арганізацый выпрацоўвае наказы, якія выносіць на шырокія сходы рабочых і калгасьнікаў.**

У час падрыхтоўкі да зьлёту кожны атрад дабіваецца каб кожны рабочы, работніца, калгасьнікі лічылі работу піянэратрада сваёй справаю.

**І на рэшце**—атрад павінен вызначыць свой удзел у райзьлёце. Атрад рыхтуе свае прапановы да палепшаньня работы арганізацыі, рыхтуе выступленьні на раённых спаборніцтвах, вечарох, рыхтуе экспанаты на раённую выстаўку.

Кожны атрад вызначае дэлегатаў і групы ўдзельнікаў спаборніцтва згодна развёрсткі Райштабу.

## Як будзе праходзіць райзьлет.

Раённы зьлёт лепш за ўсё разьлічыць на 4 дні. Прыкладная праграмма Райзьлёту наступная:

**1-й дзень зьлёту:**

Рачіца. Сустрэча дэлегатаў, выдача мандатаў, рэгістрацыя.

Увечары. Дэманстрацыя мітынг прысьвечаны адчыненьню зьлёту, вечары сустрэчы з рабочымі, калгасьнікамі па клюбах.

**2-гі дзень зьлёту:**

Раніца. Канфэрэнцыя з дакладамі:

1. Аб становішчы дзіцячай камуністычнай арганізацыі і далейшых задачах. (Дакл. РБ ДКО).

2. Даклад Горсавету, РВК, аб выкананьні **дагавароў з піянэрарганізацыяй.**

Пасьля канфэрэнцыі адчыненьне выстаўкі—тэхнічнай, мастацкай і інш. работы піянэратрадаў.

Увечары. Спаборніцтва: фізкультурныя, стралковыя, тэхнічныя, мастацкія.

**3-ці дзень зьлёту:**

Раніца. Працуюць сэкцыі:

1. Па ўдзелу піянэрарганізацыі ў выкананьні дагавароў.
2. Удзел дзяцей у нацыянальна-культурным будаўніцтве.
3. Арганізацыя дзіцячай працы.
4. Вайскова-фізкультурная работа піянэраў.
5. Работа сярод акцябрат.

Увечары. Вечар абароны краіны. Стралковыя спаборніцтва, вечары сумесна з чырвонаармейскімі часткамі.

**4-ты дзень зьлёту:**

Раніца. Экскурсіі ў саўгасы, калгасы, на заводы. Мітынг сустрэчы ўдзельнікаў зьлёту з рабочымі, калгасьнікамі

Увечары. Заключнае пасяджэньне. Прыём наказаў, выбары дэлегатаў. Заключнае паседжаньне праводзіцца сумесна з рабочымі, калгасьнікамі, саўгасьнікамі, прадстаўнікамі грамадзкасьці.

---

## Што ў першую чаргу павінен зрабіць раённы штаб.

Раённы штаб павінен кіраваць усёй падрыхтоўкай у атрадах адначасова павінен рыхтаваць арганізацыю райзьлёту.

Загадзя неабходна распрацаваць канкрэтныя пляны на кожны дзень зьлёту выходзячы з умоў свайго раёну.

Загадзя трэба падрыхтаваць кіраўнікоў спаборніцтвамі, распрацаваць плян спаборніцтва, вызначыць і падрыхтаваць кіраўнікоў сэкцыі на канфэрэнцыі.

Асобна неабходна распрацаваць плян, як будзе ў раёне арганізаваны вечар абароны краіны.

У час правядзеньня зьлёту ў дзень яго зачыненьня Цэнтральны штаб лічыць неабходным арганізаваць дзень працы ў раёне. У гэты дзень усе піянэратрады і школы раёну арганізоўваюць брыгады па дапамозе саўгасам, калгасам, прадпрыемствам.

Райштаб загадзя павінен дагаварыцца з калгасамі і саўгасамі куды зьлёт зробіць выезды, каб там можна было б арганізаваць мітынгі і правесьці работу.

Арганізацыя выстаўкі ў раёне павінна зьявіцца аднэй з асноўных частак падрыхтоўкі да зьлёту. Выстаўка пакажа, як дзеці ўдзельнічаюць у барацьбе за 5-ці годку, як змагаюцца за палітэхнізацыю і інш. Райштаб ведаючы кожны атрад і школу свайго раену могуць даць ім канкрэтныя заданьні якія экспанаты даць на выстаўку.

Гэтыя заданьні ні ў якім разе не павінны стрымаць ініцыятыву саміх атрадаў.

Райштабу неабходна:

1. Падвесьці вынікі першага этапу выкананьня дагавароў з ВСНГБ, НКЗ і Калгасцэнтрам, давесьці дагавор 3-х да кожнага атраду зьвяна піянэра, сваей арганізацыі.
2. Умацаваць кіраўніцтва работаю піянэратрадаў і групаю акцябрат праверыўшы работу кожнага атраду, забясьпечыўшы іх належнымі важатымі.
3. Інструктаваць важатых баз, атрадаў па пытаньням падрыхтоўкі да зьлёту.
4. Праверыць, як грамадзкасьць раёну ўдзельнічае ў рабоце піянэрарганізацыі.
5. Правесьці шэраг масавых мерапрыемстваў (канфэрэнцый, вечароў, сходаў дзяцей і дарослых аб зьлёце).
6. Рыхтаваць мерапрыемствы да Райзьлёту.
7. Высьвятляць пытаньні зьлёту у друку.
8. Адшукаць матар'яльныя сродкі для правядзеньня Райзьлётаў.
9. Інфармаваць Цэнтральны Штаб.

## АРГАНІЗАВАЦЬ АКТЫУ ВАКОЛ ШТАБУ.

Штабу вакол сябе неабходна згрупаваць актыў важатых піянэраў грамадзкасьці, арганізаваць брыгады дапамогі ў арганізацыі зьлёту.

Кожная брыгада можа працаваць над асобнымі пытаньнямі падрыхтоўкі і правядзеньня зьлёту. Напрыклад:

Адна брыгада займаецца арганізацыяй выстаўкі, другая арганізацыяй мастацкага абслугоўваньня зьлёту, трэцяя арганізуе экскурсіі з удзельнікамі зьлёту, чацьвёртая будзе працаваць па правядзеньні канфэрэнцыі і г. д.

Ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце павінна быць шырока разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва, як між зьвеньнямі і атрадамі, так і між раёнамі. Штаб можа выклікаць іншыя Райштабы на спаборніцтва па

лепшай падрыхтоўцы да зьлёту, ставячы ў аснову спаборніцтва новыя дасягненьні арганізацыі на фронце ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, рост арганізацыі, узмацненьне кіраўніцтва.

ЗАГАД № 1. Цэнтральны Штаб па правядзеньню 2-га Ўсебеларускага зьлёту абавязвае ўсе мясцовыя штабы кожную 5-ці дзёнку дасылаць рапарты аб ходзе падрыхтоўкі да Ўсебеларускага зьлёту і прапануе безадкладна прыступіць да выкананьня гэтага загаду.

**Нач. Штабу Гайдукевіч.**

---

## Рапартуе Бабруйскі Райштаб.

Арганізавалі шырокую растлумачальную работу аб зьлеце. Абмеркавалі пытаньне на нарадзе сакратарэй ячэяк ЛКСМБ, важатых атрадаў, актыву піянэраў.

РКК КП(б)Б вынес пастанову, якая абавязвае ўсю партыйную арганізацыю забясьпечыць належнай дапамогай ў рабоце па правядзеньню райзьлета і ў далейшай штодзённай рабоце піянэрарганізацыі.

Райштаб арганізаваў брыгады піянэраў у горадзе для дапамогі вясковым атрадам у падрыхтоўцы да зьлёту.

Для лепшай падрыхтоўкі да зьлёту па арганізацыі абвешчана баявая піянэрская трывога. Выклікалі Гомельскую арганізацыю на сацыялістычнае спаборніцтва.

**Райштаб.**

---

## Усім райштабам па правядзеньню райзьлёту.

Выставачны камітэт Цэнтральнага штабу другога Ўсебеларускага зьлёту піянэраў ставіць сваёй задачай адбіць на Ўсебеларускай выстаўцы работу піонэраў па ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, паказаць творчасьць саміх дзяцей. У гэтым сэнс арганізацыі выстаўкі. Вырашыць гэту задачу можна толькі пры дапамозе мясцовых штабаў.

На кожным райзьлёце будуць арганізаваны выстаўкі, якія згрупіруюць багаты матар'ял, пакажуць дзіцячую творчаеьць, канкрэтныя прыклады барацьбы піянэраў за промфінплян, калгасы, палітэхнізацыю школы.

Выстаўком Цэнтральнага штабу прапануе пад асабістую адказнасьць начальніка райштабу выканаць наступнае:

1. Паведаміць у выстаўком Цэнтральнага штабу, ці будзе арганізавана выстаўка на райзьлёце.

2. Сабраць найбольш цікавыя экспанаты і не пазьней 10 ліпеня г.г. пераслаць іх па адрасу Цэнтральнага штабу.

3. Паведаміць, якія экспанаты вы застаўляеце ў сябе на выстаўцы і колькі з іх парашлеце на Ўсебеларускую выстаўку 2-га Ўсебеларускага зьлёту.

4. Разгарнуць шырокую кампанію сярод дзяцей вашага раёну за ўдзел у выстаўцы, дабіваючыся таго, каб юныя тэхнікі, мастакі, вышывальшчыцы і іншыя дасылалі свае экспанаты на Ўсебеларускую выстаўку. Парадак перасылкі можа быць устаноўлены праз райштаб, або непасрэдна па адрасу Цэнтральнага штабу.

5. Аб мерапрыемствах, прынятых у сувязі з гэтым паведаміце на імя выстаўкому Цэнтральнага штабу па адрасу: Менск, Карла Маркса 3 Цэнтральнаму штабу 2-га Ўсебеларускага зьлёту піянэраў пры ЦК ЛКСМБ для выстаўкома.

**Выстаўком.**

---

# Аб выбары дэлегатаў на другі Усебеларускі і раённыя зьлёты.

**Хто складае разверстку.** Каго пасылаць **на зьлёт. Як падрыхтаваць дэлегацыю да ад‘езду на Ўсебеларускі зьлёт. Што браць у дарогу. Напярэдадні ад‘езду. На другі дзень пасьля зьлёту.**

Ніжэй мы друкуем разверстку дэлегатаў па раснам. Але разверстка ня ўсё. Вакол пытаньня выбару дэлегатаў узьнікаюць спрэчкі. Матар‘ял мае на мэце дапамагчы разьвязаць спрэчныя пытаньні. Зразумела гэты матар‘ял не зьяўляецца вычэрпываючым усё. Кожная арганізацыя павінна разгарнуць сваю ініцыятыву, прыстасавацца да сваіх умоў.

**Разверстка.** Колькасны склад дэлегатаў на 2-гі Ўсебеларускі зьлёт устаноўлены разверсткай Цэнтральнага штабу ЦК ЛКСМБ. Самавольнае павялічэньне разверсткі хаця-бы на аднаго піянэра катэгорычна забараняецца. Дэлегаты з раёнаў накіроўваюцца на Ўсебеларускі зьлёт пад адказнасьць мясцовых бюро і камітэтаў ЛКСМБ, пасьля пацьверджаньня ў друку аб тэрміну адчыненьня злёту. Не дазваляецца прыезд у Менск раней чым за дзень да адчыненьня зьлёту.

Колькасны склад дэлегатаў на раённыя злёты вызначаецца мясцовымі камітэтамі выходзячы з рашэньняў Цэнтральнага штабу, дзе вызначана—„для вясковых раёнаў модус выбараў на райзьлёт—аднаго дэлегата ад 10-ці піонэраў і для гораду—аднаго дэлегата ад 20-ці піонэраў“.

**Хто паедзе на зьлёт.** Дэлегацыі з раенаў у сваім складзе павінны мець п а п е р ш а е—дэлегатаў ад раенных арганізацый на 2-ю Ўсебеларускую канфэрэнцыю піянэраў, якая праводзіцца ў час зьлёту, п а д р у г о е—групы піянэраў, якія прымуць удзел у спаборніцтвах на зьлёце. Гэту групу дэлегатаў трэба ўкомплектаваць так, каб у склад яе ўвайшлі тыя таварышы якія прымуць удзел у тым ці іншым відзе спаборніцтваў на Ўсебеларускім зьлёце. Дзеля гэтага трэба будзе мець на ўвазе вынікі спаборніцтваў на райзьлёце. З тых удзельнікаў спаборніцтв на райзьлёце, якія выявілі лепшыя здольнасьці. Райштаб складае групы стралкоў, фізкультурнікаў, зацейнікаў і абавязкова зацьверджая на канфэрэнцыі апошняе рашэ[н]чае слова застаецца за канфэрэнцыяй.



Усім дэлегатам неабходна даць мандаты або пасьведчаньні ў тым, што яны абраны райзьлётам на 2-гі Ўсебеларускі зьлёт.

## Пасьведчаньне

т.............................................сапраўды зьяўляецца дэлегатам на другі Ўсебеларускі зьлёт піянэраў ад піянэрарганізацыі.......................................раёну.

Удзельнічаў у...................................спаборніцтва на райзьлёце.

*Нач. штабу* *(подпіс)*

Пры выбары дэлегатаў неабходна дабівацца таго, каб былі абраны сапраўды лепшыя піонэры, сапраўдныя ўдарнікі ў рабоце атраду, лепшыя важакі і арганізатары. У складзе делегацыі павінна быць забясьпечана ядро пралетарскіх дзяцей калгасьнікаў, батракоў, беднякоў, малалетніх батрачат і нянек. На зьлёце павінны быць дзеці ўсіх нацыянальнасьцей насяляючых БССР.

**Трэба дэлегатау падрыхтаваць.** З абранымі дэлегатамі неабходна правесьці спэцыяльную падрыхтоўку. Дэлегаты павінны добра ведаць, што будзе на Ўсебелару кім зьлёце і што ім прыдзецца рабіць. З дэлегатамі неабходна:

1) Правесьці гутаркі ў якіх распрацаваць праграму Ўсебеларускага зьлёту.

2) Скласьці рапарты свайго раёну, атрадаў, баз.

3) Сабраць экспанаты дзеля выстаўкі на другім Усебеларускім зьлёце.

4) Расказаць рэбятам, якія рэчы ім неабходна ўзяць з сабой.

Гэтыя рэчы прыкладна наступныя: а) куртка, альбо пальто (на выпадак непагодных дзён); б) Галоўнае ўбраньне (легкае); в) абутак (сандалі, бацінкі і інш. абавязкова разношаныя); г) Дарожная сумка.

Кожнаму дэлегату таксама неабходна ўзяць з сабою 2 пары бялізны, адну пару шкарпетак, або панчох, малую падушку з навалачкай, адну простыню і коўдру. Два ручнікі, насовыя хусткі, флягу або бутылку для вады, зубны парашок і шчотку, запісную кніжку і каралдаш.

У выпадку калі дэлегат не забясьпечаны і ў яго не хапае ўсіх неабходных рэчаў арганізацыя дапамагае яму.

Акрамя таго неабходна падрыхтаваць тыя рэчы, якія неабходны ўсёй дэлегацыі ў дарозе, як напрыклад: санітарная сумка для падачы першай дапамогі, харчаваньне на дарогу да Менску і інш. Харчаваньне павінна быць колектыўным.

Абавязкова правесьці мэдычны агляд усіх дэлегатаў. Слабых здароў'ем нельга весьці на зьлёт. Па гэтаму трэба на выпадак чаго мець абраных кандыдатаў.

**На пярэдадні ад'езду.** Неабходна арганізаваць масавыя мерапрыемствы сходы, вечары піонэраў дзяцей і дарослых, апрацаваць наказы дэлегатам, зацьвердзіць рапарты аб становішча арганізацыі і г. д.

З ліку дэлегатаў неабходна вызначыць аднаго адказнага кіраўніка дэлегацыі.

**Пасьля зьлёту.** Дэлегаты зьвярнуўшыся са зьлёту павінны азнаеміць арганізацыю з усім што было на зьлёце, як яны ўдзельнічалі на ім, якія рашэньні прыняты на канфэрэнцыі піянэраў у час зьлёту. На масавых ранішніках, сходах піянэраў, дзяцей і дарослых дэлегаты павінны даць справаздачу. З гэтай мэтай патрэбна будзе шырока выкарыстаць мясцовы друк.

**ЗЬЛЁТ—БАЯВЫ АГЛЯД УДЗЕЛ УПРАЛЕТАРСКІХ ДЗЯЦЕЙ У САЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ.**

# РАЗВЁРСТКА

**мейсц раёнам на 2-гі Усебеларускі зьлёт.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Аршанскі | 35 | Лельчыцкі | 5 |
| Азарыцкі | 5 | Лепельскі | 6 |
| Асіпавіцкі | 5 | Лоеўскі | 5 |
| Асьвейскі | 5 | Любаньскі | 5 |
| Бабруйскі | 40 | Ляднянскі | 5 |
| Багушэўскі | 5 | Магілеўскі | 35 |
| Баркавіцкі | 5 | Менскі | 150 |
| Барысаўскі | 30 | Мазырскі | 25 |
| Бешанковіцкі | 5 | Межанскі | 5 |
| Бягомельскі | 5 | Мсьціслаўскі | 6 |
| Брагінскі | 5 | Парыцкі | 5 |
| Буда-Кашалёўскі | 5 | Нараўлянскі | 5 |
| Бялыніцкі | 5 | Петрыкаўскі | 5 |
| Бярэзінскі | 5 | Плешчаніцкі | 0 |
| Быхаўскі | 6 | Полацкі | 35 |
| Веткаўскі | 5 | Прапойскі | 5 |
| Ветрынскі | 5 | Пухавіцкі | 0 |
| Вульскі | 5 | Рагачоўскі | 15 |
| Вушацкі | 5 | Расьнянскі | 5 |
| Высачанскі | 5 | Расонскі | 5 |
| Віцебскі | 60 | Рэчыцкі | 15 |
| Гарадоцкі | 6 | Сеньненскі | 5 |
| Глускі | 5 | Сіроцінскі | 0 |
| Грэскі | 5 | Слуцкі | 15 |
| Горацкі | 6 | Смалявіцкі | 5 |
| Гомельскі | 60 | Сьмілавіцкі | 5 |
| Дрысенскі | 5 | Стара-Дарожскі | 5 |
| Дрысенскі | 5 | Старобінскі | 5 |
| Дубровенскі | 10 | Суражскі | 6 |
| Журавіцкі | 5 | Сьвіслацкі | 5 |
| Жыткавіцкі | 6 | Талачынскі | 5 |
| Жлобінскі | 10 | Тураўскі | 5 |
| Камарынскі | 5 | Уваравіцкі | 5 |

| | |
|---|---|
| Копыльскі | 5 |
| Капаткевіцкі | 5 |
| Кармянскі | 5 |
| Касьцюковіцкі | 5 |
| Каралінскі | 5 |
| Клімавіцкі | 10 |
| Клічаўскі | 5 |
| Койданаўскі | 6 |
| Копыльскі | 5 |
| Круглянскі | 5 |
| Крычаўскі | 6 |
| Крупскі | 6 |
| Краснопольскі | 5 |
| Лагойскі | 5 |
| Лезьнянскі | 5 |
| Узьдзенскі | 5 |
| Хойніцкі | 5 |
| Хоцімскі | 5 |
| Халапеніцкі | 5 |
| Церахоўскі | 5 |
| Чаўскі | 5 |
| Чарэйскі | 5 |
| Чэчавіцкі | 5 |
| Чашніцкі | 6 |
| Чэрвенскі | 5 |
| Чэрыкаўскі | 5 |
| Чырв. Слабадз. | 6 |
| Юравіцкі | 5 |
| Заслаўскі | 6 |
| Шклоўскі | 7 |

## Што будзе на II Усебеларускім зьлёце.

### Праграма ДРУГОГА Усебеларускага зьлёту піянэраў

**1-шы дзень зьлёту:** Сустрэча дэлегатаў, мэдагляд, лазьня, адпачынак дэлегатаў.

Увечары: Дэманстрацыя дэлегатаў зьлёту разам з Менскімі рабочымі і піянэрамі.
**Урачыстае адчыненьне зьлёту на Усебеларускім** стадыёне. (Легкая мастацкая частка—выступленьне хору).

**2-гі дзень зьлёту:**

Раніца: Даклад ЦБ ДКО—40 хвілін.
Спрэчкі—1 гадз.
Перапынак—30 хв. сьнеданьне, зацейнікі, футбол і г. д.
Спрэчкі 1 гадз.
Заключнае слова—30 хв.

Увечары: Адчыненьне выстаўкі тэхнікі і палітэхнізацыі. Пастаноўка Трад'у.

**3-ці дзень зьлёту:**

Раніца: Праца сэкцый—3 гадз.
Экскурсыі дэлегатаў (дом санасьветы, дом Чырвонай Арміі, дзіцячую тэхнічную станцыю, с.-г. станцыю, палітэхнічную станцыю і г. д.).

Увечары: Адчыненьне Спартакіады. Кіно.

**4-ты дзень зьлёту:**

Раніца: Працяг Спартакіады—9—11 гадз.
Праца сэкцый—2 гадз,

Увечары: Зачыненьне Спартакіады і мастацкая частка.

**5-ты дзень зьлёту:**
**(Дзень працы і тэхнікі)**

Раніца: Суботнікі на фабрыках, заводах, прыгарадных саўгасах, калгасах у карысьць трактарнай калёны, збор рабочых прапаноў, мітынгу з рабочымі на тэму паход за тэхніку.

Увечары: Вечары дэлегатаў зьлёту з рабочымі і піянэрамі Менску па рабочых клюбах.

**6-ты дзень зьлёту:**
(Дзень абароны)

Раніца: Прыбыцьцё у вайсковы лягэр, знаёмства з бытам чырвонаармейцаў.

Увечары: Сумесныя вечары з чырвонаармейцамі.

**7-мы дзень зьлёту:**

Раніца: Рапарты сэкцый. Прыняцьце наказу (вынікі зьлёту)

Увечары: **Урачыстае зачыненьне зьлёту.**

**8-мы дзень** — Ад'езд дэлегатаў.

## Вопыт асобных атрадаў раенаў перадаць усёй арганізацыі.

Цэнтральны штаб 2-га Ўсебеларускага зьлёту піянэраў вынес пастанову аб выданьні бюлетэня.

Задачы бюлетэня—дапамагчы арганізацыі ў падрыхтоўцы і правядзеньня зьлётаў. Посьпех ажыцьцяўленьня гэтых задач у значнай меры залежыць ад мясцовых арганізацый. Кожная арганізацыя павінна працаваць ня толькі для сябе, вопыт сваей работы кожны раён, база, атрад павінны перадаць усей арганізацыі.

Пагэтаму мы зварочваемся да ўсіх важатых баз, атрадаў, дзіцячага актыву, райштабаў, грамадзкасьці дасылайце ў бюлетэнь вашы матар'ялы аб падрыхтоўцы да зьлёту. Пішэце як удзельнічае ваш атрад, база ў выкананьні дагавароў з ВСНГ і НКЗ, якія абавязкі ўзяў ваш атрад, зьвяно ў выкананьні дагавароў трох, як разгортваеце спаборніцтва, змагаецесь за ператварэньне піянэрарганізацыі ў шматміліённую. Райштабы дасылайце матар'ял аб мерапрыемствах вызначаных вамі ў сувязі з райзьлётам, матар'ялы аб тым, з якімі новымі дасягненьнямі ідзе ваша раенная арганізацыя да другога Ўсебеларускага зьлёту.

Грамадзкія арганізацыі шлеце матар'ялы аб тым, як выканалі вы наказы першага Ўсебеларускага і Ўсесаюзнага зьлётаў, якія мерапрыемства высунулі ў сувязі з другім Усебеларускім зьлётам.

*Рэдкалегія Бюлетэня*

*Рэдактар Л. Пікулік.*

**Адрас рэдакцыі: Менск, Карла Маркса, 3 ЦК ЛКСМБ Цэнтральнаму штабу 2-га Ўсебеларускага зьлёту для бюлетэня.**

